**№42 (2103)**

Пятніца , 4 сакавіка 2005 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -5...-3, без ападкаў, уначы — -7...-5, снег; у Брэсце ўдзень — -3...-1, без ападкаў, уначы — -5...-3, снег; у Гродне ўдзень — -3...-1, без ападкаў, уначы — -6...-4, снег; у Віцебску ўдзень — -5...-3, снег, уначы — -9...-7, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -6...-4, сонечна, уначы — -7...-5, снег; у Магілёве ўдзень — -6...-5, без ападкаў, уначы — -8...-6, снег.

*www.meteo.by*

НУ І НУ!

## «Наша служба и опасна, и трудна...»

*Да Дня міліцыі і 60-годдзя Перамогі асілак Вячаслаў Харанека вырашыў на працягу двух сутак падняць 40-кілаграмовы кег не менш як 6000 разоў.*



Пачаў маёр міліцыі Харанека ставіць новы рэкорд яшчэ ў сераду, у 13.00. Да гэтага шмат трэніраваўся, 1000 долараў, якія яму выдзеліла на падрыхтоўку Міністэрства ўнутраных спраў, Вячаслаў адразу ж перавёў на прадукты, а за двое сутак асілак плануе з'есці амаль кілаграм курынага філе, літр свежага мёду, 10 плітак гематагена і запіць усё гэтае дабро 14 літрамі мінералкі без газу, 2 літрамі зялёнай гарбаты, 2 літрамі курынага булёну і настоем шыпшыны.

Учора карэспандэнт "Народнай волі" завітаў у залу аднаго з карпусоў Акадэміі МУС, дзе і ставіць свой сусветны рэкорд наш герой, у 11.00. Вячаслаў акурат прымаў вітаміны.

— Хачу пабіць свой рэкорд, — кажа ён.

На час майго візіту Вячаслаў Харанека ўжо без аніякага сну падняў кег за 22 гадзіны 3548 разоў. Да гэтага яго асабісты рэкорд быў — за суткі 3200 разоў.

— А што ў кегу? — пытаюся ў суддзяў.

— Слава выступае за здаровы вобраз жыцця, а таму там не піва, а вада.

Суддзі, дарэчы, не спяць разам з Вячаславам Харанекам. За адзін падыход ён падымае кег чатыры разы. Затым 2-3 хвіліны адпачывае — і зноў за справу. Суддзі ўсё гэта фіксуюць.

...Калі я сыходзіў з залы, Вячаслаў сумна паглядзеў мне ўслед і пакрочыў да кега. Цягаць бочку з вадой яму яшчэ заставалася 26 гадзін. З Днём міліцыі Вас!

**Алесь СІВЫ.**
**Фота аўтара.**

ПАЗІЦЫЙНЫЯ БАІ

## Маўклівы Фралоў

*Кандыдату ў дэпутаты забаронены доступ да СМІ*

"Гродзенская праўда" адмовілася друкаваць перадвыбарчую праграму кандыдата ў дэпутаты па Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе №52 Валерыя Фралова.

Як паведаміў Яўген Акаронка, даверaная асоба кандыдата ў дэпутаты, аб гэтым пры асабістай сустрэчы заявіў галоўны рэдактар "Гродзенскай праўды". "Ён мне сказаў, што друкаваць нашу перадвыбарчую праграму не будзе. І пры гэтым не будзе ўвогуле друкаваць праграм ні Антусевіча, ні Маскевіча," — гаворыць Яўген Акаронка.

У акруговай выбарчай камісіі Гарадзенскай-Цэнтральнай выбарчай акругі №52 адмовіліся каментаваць адмову дзяржаўнай газеты друкаваць перадвыбарчую праграму апазіцыйнага кандыдата. Як неафіцыйна даведалася rahonia.promedia.by, фармальнай падставай для адозвы ў размяшчэнні перадвыбарчай праграмы стала тое, што праграма Валерыя Фралова была прадстаўлена ў рэдакцыю газеты са спазненнем.

Нагадаем таксама, што тэлерадыёкампанія "Гродна" на той жа падставе адмовілася запісваць зварот кандыдата Фралова да сваіх выбаршчыкаў. Сам палітык лічыць, што такім чынам яго адцэнзуравалі.

У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам кожны кандыдат у дэпутаты мае права на тэлевізійнае выступленне. Два кандыдаты — дэпутат гарсавета Сяргей Антусевіч і рэктар ГДУ Сяргей Маскевіч запісалі свае выступы 25 лютага. Яшчэ адзін кандыдат, дырэктар каледжа бытавога абслугоўвання насельніцтва Васіль Міхно, адмовіўся ад права выступіць на тэлебачанні. А з Фраловым адбылося нешта дзіўнае.

— Я быў у рэдакцыі ў прызначаны час, каб запісаць свой выступ. Але па незразумелых прычынах мне не далі выступіць на тэлебачанні. У прамове я хацеў данесці да сваіх выбаршчык мае стаўленне да сённяшняй акцыі прадпрымальнікаў. Мяне гэтага пазбавілі, — абураецца былы лідэр дэпутацкай фракцыі "Рэспубліка" генерал Валерый Фралоў.

Дарэчы, падзеі, што адбываюцца ў адзінай "вакантнай" выбарчай акрузе, выклікаюць шматлікія нараканні. Спачатку прагназавалася, што гэтая акруга стане своеасаблівым палігонам для абкаткі метадаў і спосабаў кантролю за падлікам галасоў. Згадзіцеся, у межах адной акругі наладзіць агульны кантроль за выбарчымі ўчасткамі, колькасцю выбаршчыкаў, падлікам галасоў, маршрутах урнаў для галасавання і г.д. шмат лягчэй, чым па ўсёй краіне. Але, здаецца, гэты трэнінг аказаўся мала каму патрэбным. Улада гуляе па сваіх правілах, апазіцыя — па сваіх. Нібыта і не было выбараў у мінулым кастрычніку, нібыта яшчэ застаецца надзея на шчырыя правілы гульні.

**Алег СНОЎ.**

## Тираж уничтожен

Председатель первичной организации Белорусского независимого профсоюза ОАО работников "Гродно Азот" Сергей Антусевич зарегистрирован кандидатом в депутаты парламента по Гродненскому—Центральному избирательному округу №52. Напомним, что это единственный округ в Беларуси, где не состоялись выборы 17 октября 2004 года, так как ни один из кандидатов не набрал необходимого количества голосов. Согласно заключенному договору, окружная комиссия сделала заказ обществу с ограниченной ответственностью "Спектр-Р" на изготовление агитационных плакатов для Сергея Антусевича. 28 февраля 2005 года его доверенные лица явились за отпечатанными плакатами, однако забрать продукцию не смогли. Работники фирмы сообщили доверенному лицу кандидата в депутаты Вадиму Саранчукову, что тираж изъят сотрудниками КГБ.

Руководитель пресс-центра Управления КГБ по Гродненской области Татьяна Ломако пояснила, что Управление не имеет никакого отношения к предвыборной печатной продукции, а сотрудники комитета изъятие не производили.

Технический директор ПООО "Спектр-Р" подтвердил, что сотрудники органов госбезопасности к исчезновению агитационных материалов не имеют никакого отношения. По его словам, после того как плакаты были отпечатаны, выяснилось, что у заказчика нет лицензии на издательскую деятельность. В связи с чем тираж был уничтожен, а деньги возвращены заказчику. По словам директора, он запретил своим сотрудникам принимать заказы на изготовление подобного рода печатной продукции, так как это всегда сопряжено с различного рода проблемами и неприятностями. Менеджер предприятия, посмевший принять заказ, по словам руководителя, подвергнут жесткому наказанию. Повторно печатать агитационные плакаты фирма отказалась.

Согласно Избирательному кодексу, специальная лицензия на изготовление агитационных материалов не требуется.

— Происходящее я расцениваю как попытку властей сорвать мою агитационную кампанию, — прокомментировал ситуацию Сергей Антусевич. Проведением выборов в нашей стране, похоже, занимаются не те структуры, которые должны этим заниматься, согласно действующему законодательству, а силовые ведомства и разного рода управления.

**Иван РОМАН.**

ГАРАЧАЯ ТЭМА

## Рынкі стаяць

*Забастоўка прадпрымальнікаў працягваецца. 2 сакавіка ў Беларусі не працавала большасць рэчавых рынкаў. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні РГА "Перспектыва" Аляксандр Лапотка. Паводле яго слоў, звесткі, сабраныя за гэты дзень з усіх рэгіёнаў краіны, "дазваляюць сказаць аб тым, што агульнанацыянальную бестэрміновую забастоўку пакуль падтрымлівае большасць прадпрымальнікаў".*

"У Мінску поўнасцю не працавалі Чэрвенскі рынак і "Дынама", у "Ждановічах" поўнасцю не працаваў рэчавы рынак; аўтарынак і харчовы не працавалі часткова, на рынку "Экспабел" працавалі толькі аптовыя кіёскі. Практычна ва ўсіх гарадах рынкі стаялі", — заключыў А.Лапотка.

Намеснік старшыні "Перспектывы" адзначыў, што ў рэгіёнах прадпрымальнікі дзейнічаюць "больш згуртавана". "У Мінску каля паловы прадпрымальнікаў усё ж заплацілі ПДК, у рэгіёнах — не больш за 5 працэнтаў", — паведаміў А.Лапотка.

На яго думку, гэта тлумачыцца тым, што ў Мінску ўлада паспяхова выкарыстоўвае ў якасці рычагу ціску адміністрацыю рынкаў. "2 сакавіка на Чэрвенскім рынку было ліквідавана некалькі гандлёвых месцаў актывістаў "Перспектывы". На "Дынама" актывісту руху дырэкцыя парэкамендавала больш не з'яўляцца на рынку, такі ж выпадак зафіксаваны на "Экспабеле", — адзначыў А.Лапотка.

"Прадпрымальнікі працягваюць забастоўку, паколькі большасць з іх у бязвыхадным становішчы. Або ўлада выканае нашы патрабаванні, або колькасць прадпрымальнікаў значна паменшыцца", — заявіў прадстаўнік "Перспектывы".

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

*Калі вярстаўся нумар, стала вядома, што 3 сакавіка ў Гродне акцыя прадпрымальнікаў завяршылася масавымі беспарадкамі. Прадпрымальнікі з раніцы прыйшлі да гарвыканкама, але, зразумеўшы бессэнсоўнасць гэтых паходаў, праз некаторы час натоўп перакрыў галоўную вуліцу горада — вуліцу Дзяржынскага, спыніўшы рух грамадскага транспарту. Каб разагнаць натоўп, міліцыя прымяніла дубінкі. Падрабязнасці — у наступным нумары.*

БУДЗЬ ЗДАРОЎ

## Грып адступае

*Па прагнозах спецыялістаў на наступным тыдні эпідэмія грыпу пойдзе на спад*

У гэтыя дні ў паліклінікі краіны за дапамогай звяртаецца значна менш грамадзян, чым тыдзень таму. Сімптомы, з якімі прыходзяць пацыенты, — тэмпература, галаўны боль, ламота ў касцях. Разам з грыпам тэрапеўты нярэдка дыягнастуюць і іншыя вострыя рэспіраторныя вірусныя захворванні.

Спецыялісты ўжо заявілі, што сёлета ў Беларусі назіраецца сярэдняя інтэнсіўнасць эпідэміі. Нават не ўсе 18 кантрольных гарадоў краіны ахоплены эпідэміяй грыпу. Яна абышла Оршу і Баранавічы.

*"Цёплыя восень і зіма зрабілі добрую справу,* — кажа галоўны дзяржаўны санітарны ўрач краіны **Міхаіл Рымжа**. — *Узровень захворвання на грып сёлета невысокі. Спецыялісты мяркуюць, што ў сярэдзіне сакавіка эпідэмія ўвогуле завершыцца. Пасля маразоў выгляне веснавое сонца. А вірус грыпу ненавіта і баіцца сонечных промняў".*

Асаблівасць цяперашняй эпідэміі — сярод хворых няшмат дзяцей. Калі параўнаць з мінулым годам, то, напрыклад, у Мінску ў 2003—2004 годзе роўна палову захварэўшых на грып складалі дзеці, а зараз гэтая лічба не перавысіла 40 працэнтаў. У гэтым сезоне найбольш хварэюць дзеці ва ўзросце 3—6 гадоў. У беларускай сталіцы падчас эпідэміі на каранцін не былі зачынены ніводная школа і ніводны дзіцячы садок. Ды і ўвогуле па Беларусі толькі 43 школы былі закрытыя на каранцін.

Асаблівую трывогу ў медыкаў выклікаюць постгрыпозныя ўскладненні. У мінулым сезоне ад іх памерлі чацвёра беларусаў, у пазамінулым — пяцёра. Сёлета падчас эпідэміі грыпу памёр 53-гадовы жыхар Віцебска. Але прычына яго смерці — бактэрыяльная пнеўманія, якая развілася на фоне адэнавіруснай інфекцыі. Мужчына вельмі позна звярнуўся па дапамогу ў бальніцу: толькі на 9-ы дзень хваробы. Выратаваць яго медыкі не змаглі.

*"Пад грып "маскіруецца" яшчэ адна страшная вірусная хвароба — менінгіт,* — засцярожвае Міхаіл Рымжа. — *І калі своечасова не пачаць адэкватнае лячэнне, чалавек можа загінуць. Антыбіётыкі не паспяюць дапамагчы. У мінулым годзе ў Беларусі на менінгіт хварэла 300 чалавек, і 31 з іх памёр. Таму першая парада: калі паднялася тэмпература — адразу выклікайце ўрача!"*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Мирный атом

*Белорусские телеканалы начали пропагандистскую кампанию и убеждают население в безопасности "мирного атома". Таким образом косвенно подтверждается заявление экс-депутата, трехкратного Олимпийского чемпиона Владимира Парфеновича о том, что Беларусь готовят к строительству атомной станции. Сам Владимир Владимирович даже побывал в прокуратуре, которая пытается найти в тексте заявления о создании "антиядерного фронта" приметы оскорбления президента.*

**— Владимир Владимирович, прошло несколько недель после обнародования Вашего заявления о кулуарном решении белорусских властей начать в 2005 году работы по строительству в Беларуси АЭС. За это время белорусское руководство никаким образом не обозначило свое отношение к столь серьезным обвинениям в игнорировании права народа на выражение собственного мнения по поводу развития ядерной энергетики. Чем Вы объясните такую реакцию властей страны?**

— Власти практически не скрывают начала строительства. Каждое воскресенье на канале "Лад" транслируется специальная передача, где подробно рассказывается о необходимости и выгодности строительства, о выбранных площадках для АЭС, о выборе российских поставщиков оборудования, о безопасности современных ядерных технологий, хотя прекрасно известно, что таких технологий нет. Происшедшая на прошлой неделе авария ядерного реактора на японской АЭС "Онагава" является лучшим тому примером.

27 февраля Белорусское телевидение подтвердило наличие на белорусской территории обогащенного урана. Таким образом, начинка для реактора уже имеется. Прекрасно информированы о белорусском проекте и начале его претворения в жизнь российские и французские атомщики. И, между прочим, с 2003 года белорусские ученые-ядерщики не вылезали из французских ядерных центров.

Так что шила в мешке не утаишь, тем более что это "шило" готовилось годами. Власть неустанно рассказывала нам сказки о возвращении территории Чернобыльской зоны к полноценной жизни, о чернобыльском молочке, которое исключительно "для детишек" и т.д. 21 января из выступления белорусского президента мы узнали и то, что народ Беларуси уже, в принципе, не против создания собственного "национального" Чернобыля. Однако все-таки спросить народ никто не удосужился.

**— Вы считаете, что АЭС — это политический проект. Власть, в свою очередь, говорит исключительно о поиске вариантов ухода от энергетической зависимости от России. Чего больше в проекте АЭС — политики или экономики?**

— Александр Лукашенко прав. Собственная АЭС — это действительно уход, но не от энергетической, а от политической зависимости от России. Станция не решит энергетических проблем страны — она дорога и может вообще не окупиться. Кроме того, строительство АЭС — это тупиковый путь для нашей экономики. Вместо того чтобы проводить структурные реформы, уходить от энергоемких производств и технологий, мы их только расширяем, уповая, что БелАЭС решит наши экономические проблемы. Это опасные иллюзии.

Но АЭС решит некоторые важные для наших властей политические вопросы. В руководстве стран, где в дефиците демократия, бытует заблуждение, что, если на территории страны имеется оружие массового поражения или ядерные объекты, то они обеспечат условия безнаказанности для правящих режимов. АЭС — идеальное условие для ядерного шантажа соседей и всего мира. АЭС — это готовая "грязная" атомная бомба, вокруг которой живет народ-заложник.

**— Вы заявили о создании антиядерного фронта. На какой стадии эта работа?**

— Единомышленников достаточно много. В первую очередь это ученые, экологи, медики. В последнее время к инициативе стали присоединяться представители оппозиции, что нас несколько удивило, так как Белорусский антиядерный фронт — это не политический проект. БАФ — общественная инициатива, то есть инициатива людей, которые, вне зависимости от политических, религиозных и иных взглядов и пристрастий, объединены стремлением не допустить строительства на нашей земле нового Чернобыля. Мы не боремся за власть как политическая оппозиция режиму А. Лукашенко, но в то же время мы всегда желали успеха оппозиции в ее борьбе за рождение нового лидера нации. Нашей главной задачей является привлечение внимания белорусского народа и всего мира к проблеме "ядерной Беларуси".

**Елена НОВИКОВА.**

ТЕННИС: КУБОК ДЭВИСА

## Белорусы собираются «попить крови» у земляков графа Дракулы

*Сегодня в румынском городе Брашове начнется теннисный матч 1/8 финала Кубка Дэвиса между сборными Румынии и Беларуси*

Наша команда прибыла в Румынию за неделю до матча без Максима Мирного. Макс тренировался на грунтовых кортах во Флориде и только в минувшее воскресенье вечером присоединился к ребятам. Белорусов разместили за городом, в пятизвездочном отеле "Королева Мария", который находится на небольшом горнолыжном курорте Пояна-Брашов. Гостеприимные, но хитрые хозяева сразу же завалили нашу делегацию предложениями в плане культурной программы, от которых наши так же культурно отказывались. Не за этим, мол, в Румынию приехали. Хотя и согласились съездить на экскурсию в легендарный замок Бран, который считался резиденцией не менее легендарного кровопийцы графа Дракулы. Полезно, знаете ли, перед ответственным матчем показать зубы духу Дракулы, который, надо полагать, душой болеет за земляков. Но наших теннисистов это не смущает, и они обещают "попить крови" у своих румынских коллег.

...Перво-наперво в Брашове осмотрели корт, который хозяева специально сделали а-ля "против белорусов". Как известно, и Максим Мирный, и Володя Волчков сильны на быстрых, искусственных кортах, и румыны тут же это учли — положили в зале медленное, грунтовое покрытие, на котором и сами-то не блещут. Но, как говорят в той народной присказке: "Не жалко, что своя корова сдохла, а обидно, что у соседа живая". Против белорусов, наверное, будет играть и 600-метровая высота над уровнем моря, на которой расположен Брашов. Воздух разреженный, надо привыкнуть к отскокам мяча.

Впрочем, все это субъективные факторы. Лидеры нашей команды, естественно, Володя Волчков и Максим Мирный. А кто же новички? Третьим номером определен Егор Пунтус, четвертым — Александр Бурый, запасным — Алексей Бессонов, который, к слову, сын главного тренера нашей сборной. Александр Скрипко и Андрей Коротченя, чьи имена уже были на слуху у любителей тенниса, травмированы, перспективный Сергей Тарасевич переболел гриппом, так что имеем то, что имеем.

Егор Пунтус, которому 1 марта исполнилось восемнадцать, выступал лишь на Belarus Cup. Лучшее достижение в рейтинге — 512-й номер, сейчас он — 1151-й.

18-летний Саша Бурый тоже на турнирах выступает очень редко, в рейтинге — 1022-й, но больно уж у него фактура хорошая. Высокий, с мощной подачей — отличный спаринг-партнер.

Леша Бессонов младше их на год и среди сверстников сейчас занимает в мире 702-е место. В октябре прошлого года он дошел до четвертьфинала юниорского турнира в Андорре, а чуть раньше стал сильнейшим в паре в Каунасе.

Уже определил участников на игру с белорусами и капитан сборной Румынии. На первых ролях у румын — опытные Андрей Павел и Виктор Ханеску. Первый — 31-летний Павел выступает за сборную с 1991 года и сейчас занимает в мировом рейтинге 23-ю строчку. На Открытом чемпионате Австралии в этом году он дошел до четвертьфинала, на другом турнире в Дохе — в паре играл в финале.

Виктор Ханеску тоже отнюдь не мальчик для битья. Теннисист известен уже хотя бы тем, что имеет баскетбольный рост под два метра, обладает супермощной подачей и никогда не улыбается на корте.

Еще два румынских теннисиста — Габриэль Трифу и Разван Сабай — звезд с неба не хватают, но последний неплохо играет на задней линии и, не исключено, что сыграет с кем-то из первых номеров в паре.

И напоследок помечтаем. Если белорусы победят в гостях румынов, а сборная США одолеет на своих кортах хорватов, то в 1/4 финала Кубка Дэвиса наша команда примет в Минске американцев. Андре Агасси, Энди Роддик, Боб Брайан! Но это пока лишь мечты...

**Алесь СИВЫЙ.**



**Фото photo.bymedia.net**

АБІТУРЫЕНТ

# Тэст замест экзамена

*З 1 сакавіка ў Беларусі пачалася тэставая ліхаманка.*

Гэта толькі здаецца, што да ўступнай кампаніі застаецца яшчэ шмат часу. На самай справе для цяперашніх выпускнікоў, якія жадаюць атрымаць вышэйшую адукацыю, нялёгкі час ужо надышоў. Першую праверку ведаў дзяўчаты і хлопцы змогуць прайсці ўжо ў сярэдзіне красавіка. З 16 красавіка пачынаецца тэсціраванне на платнай аснове, зарэгістравацца на якое ўжо можна з 1 сакавіка. Будучым абітурыентам прапанавана пісаць тэст па васьмі прадметах на выбар, тэсціраванне будзе доўжыцца да 14 мая. Калі выпускнік атрымае добры вынік, ён зможа скарыстаць яго на ўступных экзаменах, калі адзнака яго не задаволіць — паспрабаваць злавіць удачу яшчэ раз, летам. З 20 чэрвеня па 7 ліпеня будзе праходзіць профільнае тэсціраванне па прадметах, якія вынесены на ўступныя экзамены. Абавязковы тэст па беларускай альбо рускай мове адбудзецца 29 мая і 5 чэрвеня адпаведна.

Сёлетняя ўступная кампанія адрозніваецца ад мінулай тым, што амаль усе экзамены замянілі тэстамі. ВНУ прапанавана абавязкова праводзіць два тэставых экзамены і толькі адзін на выбар: альбо вусны, альбо таксама тэставы. Напрыклад, усе тры ўступныя экзамены замянілі на тэсты медыцынскія універсітэты краіны. Абавязковае тэсціраванне па трэцім прадмеце — "Чалавек. Грамадства. Дзяржава" — чакае паступаючых на некаторыя факультэты Белдзяржуніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. Інстытут кантролю ведаў ужо распрацаваў для БДУ і БДЭУ тэст па гэтай складанай школьнай дысцыпліне.

Па сённяшні дзень доўжацца спрэчкі наконт абавязковага тэсціравання. Ні выкладчыкі, ні спецыялісты Міністэрства адукацыі не могуць сказаць, што лепей: тэст альбо экзамен. У мінулым годзе быў момант, калі здавалася, тэсты ўвогуле адменяць. Неяк на нарадзе, дзе разглядаліся пытанні рэфармавання агульнаадукацыйнай школы, А.Лукашэнка раскрытыкаваў сістэму тэсціравання і ўзгадаў тыя часы, калі выпускнікі здавалі звычайныя ўступныя экзамены. А паколькі ў нашай краіне любое слова кіраўніка дзяржавы чароўным чынам увасабляецца ў жыццё літаральна на наступны дзень, то можна было зрабіць здагадку, што і ўступная кампанія ў новым годзе адбудзецца па новых/старых правілах. Аднак тэсты захаваліся, і нават іх колькасць павялічылася.

*"Тэсты па беларускай і рускай мовах — гэта нармальная з'ява,* — лічыць выкладчык беларускай літаратуры **Лявон Баршчэўскі**. — *Гэта нічым не горш, чым дыктоўка альбо пераказ. Іншае пытанне, як гэта ўсё робіцца. У тэстах шмат памылак, якія выяўляюць самі вучні.*

*Акрамя таго, ёсць прадметы, якія вучаць школьніка мысліць, і вось там абысціся тэстамі нельга. Напрыклад, "Гісторыя Беларусі" альбо "Чалавек. Грамадства. Дзяржава". Няма адназначных адказаў на пытанні, якія ставяцца ў тэстах па гэтых прадметах.*

*На мой погляд, найбольш аб'ектыўная сістэма дзейнічае ў суседняй Літве. Там увогуле няма ўступных экзаменаў і тэстаў. Існуюць толькі выпускныя экзамены ў школах, якія ацэньваюць не настаўнікі, а незалежныя камісіі. Потым у адпаведнасці з сумай балаў, якую набраў вучань, у тым ліку і па профільных прадметах, ён мае права бясплатна паступіць ва універсітэт. Калі сума балаў высокая, то і выбіраць можна паміж 10—20 ВНУ, а калі малая, то толькі паміж дзвюма-трыма. Гэтая сістэма здымае ўсялякія спекуляцыі, праверкі, кантроль.*

*А пры нашай сістэме галоўная праблема застаецца. Гэта праблема галоснасці, адкрытасці і роўных умоў доступу да вышэйшай адукацыі. Бо як ні спрабуюць нам давесці немагчымасць падтасоўкі падчас тэсціравання, заяўляючы, што тэсты быццам бы зашыфраваны, дзеці высокіх чыноўнікаў заўсёды 100-працэнтна паступаюць. Як гэта атрымліваецца? А атрымліваецца таму, што грамадства не мае сапраўднага кантролю. Відавочна, што не БПСМ і не супрацоўнікі Дзяржкантролю павінны кантраляваць гэтую з'яву. Рабіць гэта мусяць недзяржаўныя грамадскія арганізацыі. Так што якім бы ні быў экзамен — вусным альбо тэставым, усё роўна праблема палягае ў адсутнасці празрыстасці грамадскіх працэсаў у краіне ў цэлым. І так будзе да той пары, пакуль у Беларусі не пачнуць дзейнічаць дэмакратычныя механізмы".*

Дарэчы, у мінулым годзе кожны дзевяты абітурыент, які быў залічаны ў вышэйшую навучальную ўстанову, прадстаўляў у прыёмную камісію сертыфікат абавязковага тэсціравання. Вынік сапраўды неблагі, калі ўлічыць, што ў гэтую статыстыку не ўвайшлі медыцынскія універсітэты, дзе прыём студэнтаў праводзіўся па асобных правілах, а таксама не ўлічваліся сертыфікаты, атрыманыя на абавязковым тэсціраванні па беларускай і рускай мовах.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НАПЯРЭДАДНІ

## *Хто заплаціць за «лепшы ў свеце» фестываль?*

**Сёлета, як і ў папярэднія гады, "Славянскі базар у Віцебску" прыкметна ўдарыць па абласным і гарадскім бюджэтах. Суцяшэннем для мясцовых улад і асабліва жыхароў з'яўляецца тое, што Віцебск пасля ліпеньскага шоу, як старадаўняя Масква пасля чарговага пажару, становіцца чысцей і прыгажэй.**

На першым, лютаўскім, пасяджэнні гарадскога камітэта па падрыхтоўцы да чатырнаццатага па ліку "Базару" былі агучаны пажаданні прэзідэнта Беларусі, каб чарговае свята мастацтваў "выйшла на сусветны ўзровень і выгадна адрознівалася ад папярэдніх". У той жа час прысутныя ўзгадалі, што А.Лукашэнка запатрабаваў ашчадна выдаткоўваць сродкі, эканоміць на ўсім, на чым удасца, і не надта разлічваць на фінансаванне з рэспубліканскага бюджэту. "Шукайце спонсараў", — параіў прэзідэнт.

Такім чынам, для мясцовай "вертыкалі" падрыхтоўка да "Базару-2005" выльецца ў аўральны пошук грошай на добраўпарадкаванне горада, рамонт фестывальных аб'ектаў і годную сустрэчу замежных гасцей і айчынных высокіх персон.

Сродкі патрэбны вялікія. Тым больш што мясцовая казна яшчэ не разлічылася з падрадчыкамі за мінулагоднія работы, звязаныя з фестывалем. Толькі на частковае абнаўленне Летняга амфітэатра спатрэбіцца 600 мільёнаў беларускіх рублей.

Ужо вядома, што сёлетні "Славянскі базар" пачнецца 15 і завершыцца 21 ліпеня. Да адкрыцця фестывалю будаўнікі павінны закончыць рэканструкцыю Кіраўскага моста праз Дзвіну. Работы вядуцца ўжо каля года, будаўнікі шчыруюць, але па ўсім відаць, што да 15 ліпеня ўдасца аднавіць транспартны рух толькі па адным баку моста. Але нават гэта суцешыць народ не менш, чым сам "Базар", бо жыхары Віцебска стаміліся ад транспартных нязручнасцяў, што ўтварыліся пасля змянення звыклых маршрутаў.

Акрамя гэтага, плануецца да пачатку фестывалю адкрыць новы гандлёвы цэнтр "Кантынент" у прыбудове да адкрытай год таму гасцініцы "Лучоса", гатэль на 100 месцаў у прыгарадзе, а галоўнае — ашчасліціць прыезджых і тутэйшых хоць бы дзесяткам грамадскіх туалетаў у зоне "Базару", бо дэфіцыт гэтых аб'ектаў моцна зніжае ўражанне ад папрыгажэўшага да свята мастацтваў горада.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

## *Палітычнае надвор'е мяняецца?*

Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама галоўны ідэолаг абласной вертыкалі Анатоль Глаз нечакана загаварыў па-беларуску.

Неардынарная падзея адбылася на чарговым лыжным свяце ў Магілёве. У інтэрв'ю карэспандэнту магілёўскай студыі "Лад" спадар Глаз, падбіраючы патрэбныя беларускія словы, казаў пра здароўе, спорт і надвор'е.

Тут не было б нічога дзіўнага, калі б за чыноўнікам з багатым досведам працы ў партыйных і дзяржаўных структурах і раней прыкмячаліся такія неспадзяванкі. Нават на прэзентацыйных мерапрыемствах, якія вымагалі беларускай мовы, Анатоль Глаз падкрэслена прамаўляў па-руску.

Людзі, якія працавалі ў тых жа партыйных і дзяржаўных структурах, кажуць, што Анатоль Глаз заўжды чуйны да кан'юнктуры, змен настрояў ва ўладзе. Менавіта гэтая якасць дазваляе яму заставацца запатрабаваным чыноўнікам.

Што да інтэрв'ю, дык яно, відаць, было загадзя падрыхтаваным. Але навошта? Мерапрыемства ж не вымагала беларускамоўнага каментарыю. Мо, надвор'е паспрыяла?

**Андрэй БЕЛАГУБАЎ.**

## *Так і да раніцы гуляць можна...*

Завяршыўся рэгулярны сезон адкрытага чэмпіянату Беларусі па хакеі з шайбай — наперадзе серыя плэй-оф.

Чвэрцьфінальныя пары сфарміраваліся наступным чынам: "Юнацтва" (Мінск) — "Хімік-СКА" (Наваполацк), "Хімвалакно"(Магілёў) — Рыга-2000, Сокал (Кіеў) — Гомель, "Керамін" (Мінск) — "Металургс" (Ліепая). Серыі матчаў чвэрцьфінальнай стадыі будуць працягвацца да трох перамог. Паўфінал і фінал — да чатырох.

Згодна з рэгламентам, у выпадку, калі асноўны час матча серыі плэй-оф завершыцца ўнічыю, будзе прызначаны дадатковы перыяд працягласцю 20 хвілін. Гульня ў овертайме будзе праходзіць 4x4 да першай закінутай шайбы. Але, што самае цікавае, у тым выпадку, калі шайба закінута не будзе, прызначаецца чарговы 20-хвілінны перыяд. За ім яшчэ і яшчэ... Карацей, у выпадку чаго, так і да раніцы гуляць можна.

Пераможцам адкрытага чэмпіянату Беларусі будзе названа каманда, якая па выніках плэй-оф зойме вышэйшае месца. Першыя чвэрцьфінальныя гульні адбудуцца 6 сакавіка, першая фінальная сустрэча — 30 сакавіка.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

# Алесь Смольскі марыць служыць пад бел-чырвона-белым сцягам

*Алесь Смольскі — актывіст незарэгістраванага "Маладога фронту". Напрыканцы мінулага года быў выключаны з сувораўскага вучылішча за сяброўства з "небяспечнай палітычнай арганізацыяй". Быў адным з ініцыятараў кампаніі па зборы подпісаў за перайменаванне сувораўскага вучылішча ў імя Тадэвуша Касцюшкі. "Сувораў пакінуў крывавы след на зямлі Беларусі, — гаворыць Алесь Смольскі, — і ўстанова, у якой вучаць любіць і абараняць Радзіму, не можа называцца ў гонар тырана".*

**— Алесь, адкуль такая любоў да вайсковай службы?**

— Яшчэ калі быў зусім малы, цвёрда вырашыў: буду вайскоўцам. Спачатку мяне проста вабіла форма. Калі пачаў сталець і на многія рэчы глядзець па-іншаму, з'явілася ўсведамленне таго, што вайсковец — чалавек, які, як ніхто іншы, нясе адказнасць за сваю Радзіму, за яе бяспеку.

**— А як курсант сувораўскага вучылішча трапіў у "Малады фронт"?**

— Некалькі гадоў таму прыехаў на выхадныя дамоў, у Жодзіна. Гэта якраз 14 лютага было — дзень, калі "Малады фронт" традыцыйна праводзіў акцыю ў гонар Дня ўсіх закаханых. Мне цікава стала, што гэта за мерапрыемства, падышоў да моладзі, а яны мне "валянцінку" падарылі, павіншавалі. Відаць, такую ўвагу з боку ўдзельнікаў акцыі заслужыў таму, што быў у форме суворaўца. Вось так усё і пачалося...

Прыход у "Малады фронт" быў заканамернасцю. Я заўсёды лічыў сябе патрыётам, любоў да беларушчыны мне з дзяцінства прывіў брат бабулі — ён увесь час размаўляў па-беларуску, столькі цікавага распавядаў пра гісторыю, культуру.

Пачуццё самасвядомасці паступова расло і мацнела. Натуральна, шмат на якія рэчы я глядзеў інакш, чым мае равеснікі, і з некаторымі з'явамі проста не мог мірыцца...

**— Напрыклад, з тым, што вучылішча названа ў гонар Суворава?**

— Так. Мяне гэта проста абурала. Хто такі Сувораў у гісторыі Беларусі?..

Прашчупаўшы глебу сярод аднакурснікаў, я распачаў кампанію па зборы подпісаў за перайменаванне вучылішча ў імя Тадэвуша Касцюшкі.

**— Менавіта гэты факт і стаў прычынай выключэння з вучылішча?**

— Справа ў тым, што мне нават па сённяшні дзень так і не патлумачылі — чаму, уласна кажучы, выключылі. Я да гэтага моманту не бачыў ніякага загаду аб адлічэнні. Пачалося ўсё з таго, што кіраўніцтва вучылішча зрабілаператрус маіх рэчаў і знайшло пасведчанне аб тым, што я з'яўляюся сябрам "Маладога фронту". Мяне, а пасля і бацьку, пачалі выклікаць "на размовы", пераконваць...

Праз некаторы час я быў пазбаўлены харчавання. Калі запытаўся: "За што і як гэта разумець?", адказу ад адміністрацыі так і не атрымаў. Камандзір узвода патэлефанаваў майму бацьку і сказаў: "Забярыце адсюль свайго сына!". Прытым параіў зрабіць гэта як мага хутчэй. Начальнік вучылішча зазначыў, што нібыта існуе загад аб маім адлічэнні... З боку чыноўнікаў прагучала — маўляў, "сабака, якога карmілі, не павінен кусацца"...

Я мусіў напісаць тлумачальную запіску камандзіру, дзе пазначыў, што званне "суворaўца" супярэчыць маім уяўленням пра гонар і годнасць беларуса.

Што датычыць кампаніі па зборы подпісаў, то кіраўніцтва неаднойчы праводзіла са мной размовы аб тым, што я, маўляў, раблю памылку: Касцюшка — герой Польшчы і да Беларусі не мае ніякага дачынення. Я спрабаваў даказаць адваротнае, але мае аргументы не ўспрымаліся.

**— А як да гэтай ініцыятывы ставіліся іншыя курсанты?**

— Большасць — станоўча. Я думаю, што калі б не маё выключэнне, то кампанію ўдалося б давесці да канца.

Дарэчы, калі мяне выгналі, сябры з "Маладога фронту" ладзілі каля вучылішча акцыю падтрымкі пад гучным лозунгам "Рукі прэч ад Смольскага!". Гэтая акцыя засведчыла стаўленне да мяне курсантаў. Хлопцы выходзілі да пікетчыкаў, выказвалі падтрымку...

У мяне засталося шмат сяброў у вучылішчы. Згадваю пра іх з цеплынёй і, думаю, мы яшчэ абавязкова паслужым разам.

**— Чым займаешся зараз?**

— Пакуль давучваюся ў школе. Рыхтуюся да паступлення ў ВНУ.

**— А на будучыню якія планы?**

— Буду вайскоўцам. Абавязкова.

Я не раблю з сябе ахвяру. Свой выбар я зрабіў свядома і ад сваіх каштоўнасцяў адмаўляцца не збіраюся. І калі паўстала пытанне "альбо — альбо", ні секунды не вагаўся. Я — будучы афіцэр і мушу трымаць слова.

Мая вайсковая кар'ера, перакананы, яшчэ наперадзе. Я не імкнуся да пасад, да славы, да ўлады. Хачу сумленна і аддана служыць сваёй Беларусі.

Пад бел-чырвона-белым сцягам.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

*Жодзіна—Мінск.*

СУД

# Як Ярмошына Шчукіна ратавала

У час, калі ўся краіна жыла маючымі адбыцца выбарамі і рэферэндумам, Валерый Аляксеевіч Шчукін (яго нашым чытачам прадстаўляць не трэба) вырашыў зрабіць уклад у айчынную дэмакратыю. Хоць ён чалавек увогуле небагаты, да таго ж пазбаўлены ўладаю жытла і з гэтай прычыны вымушаны жыць на віцебскім вакзале, ды ўсё ж адарваў ад сваёй пенсіі афіцэра ваенна-марскога флоту СССР грошы, каб надрукаваць улётку дзеля палітычнай адукацыі суайчыннікаў.

На адным баку быў зварот да выбаршчыкаў добра падумаць, перш чым галасаваць за кандыдатаў ад улады, на другім — тлумачылася небяспека, якую ўяўляе для будучыні краіны станоўчы адказ на пытанні рэферэндума. Спадар Шчукін папярэджваў грамадзян, што іх будуць прымушаць галасаваць датэрмінова, і раіў, што трэба зрабіць, каб, не выказваючы пратэсту наўпрост, галасаваць усё ж такі менавіта 17 кастрычніка.

З гэтымі ўлёткамі яго тройчы затрымлівала міліцыя. Праваабаронцу прыцягвалі да адказнасці па частцы 3 артыкула 172 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Камісія па адміністрацыйных правапарушэннях адміністрацыі Першамайскага раёна Віцебска падчас аднаго пасяджэння вынесла яму аж тры папярэджанні запар. Дзейнасць Шчукіна была трактаваная камісіяй як парушэнне існуючага парадку распаўсюджвання друкаваных матэрыялаў ды яшчэ выдадзеных у парушэнне заканадаўства. Пасля апошняга затрымання Валерыя Аляксеевіча зняволілі на дзесяць сутак за нібыта непадпарадкаванне міліцыі.

Вось з таго часу спадар Шчукін судзіцца з уладаю, спрабуе давесці, што быў асуджаны незаконна, а рашэнне камісіі супярэчыць заканадаўству.

1 сакавіка ў судзе Першамайскага раёна Віцебска пасля некалькіх адтэрміновак нарэшце разгледзелі іск Валерыя Шчукіна. А трымаць адказ мусіла памянёная камісія па адміністрацыйных правапарушэннях. Спадар Валерый даводзіў суду, што ягоная грамадская дзейнасць не мае ніякага дачынення да артыкула 172 частка 3 і абвінавачванне яго ў адсутнасці выхадных звестак на ўлётцы супрацьзаконнае.

Справа ў тым, што выхадныя звесткі (гэта больш як дзесятак пунктаў) прадугледжаны Законам аб друку для кніг, газет і часопісаў, і клапаціцца аб іх наяўнасці мусіць юрыдычная асоба — выдавец. А, згодна з Выбарчым кодэксам, яны мусяць быць і на агітацыйных матэрыялах, якія рэпрэзентуюць зарэгістраваных кандыдатаў.

Валерый Шчукін не юрыдычная асоба. У выбарчую кампанію ён не заангажаваны, інтарэсаў кандыдатаў у дэпутаты таксама не прадстаўляе. Валерый Аляксеевіч — прыватная асоба, проста грамадзянін Рэспублікі Беларусь. А як мусіць выглядаць улётка прыватнай асобы, заканадаўства не ўстанаўлівае. Адзінае, што можна было б паставіць Шчукіну ў віну, дык гэта адсутнасць подпісу. Але ягоны подпіс пад улёткаю ёсць.

Прадстаўнік камісіі па адміністрацыйных правапарушэннях спрабаваў пераканаць суд, што перанос на прыватную асобу палажэнняў заканадаўства, што датычаць юрыдычных асобаў і барацьбітоў за месца ў выбарных органах, справа абсалютна нармальная. Але ў дадзеным выпадку саюзнікам Шчукіна аказалася... старшыня Цэнтрвыбаркама Ярмошына. Бо на судзе згадалі, што гэтая спадарыня напярэдадні выбараў і рэферэндуму мела нагоду даваць афіцыйныя тлумачэнні на запыт па аналагічным пытанні і адназначна заявіла, што выхадныя звесткі павінны быць толькі на агітацыйных матэрыялах кандыдатаў у дэпутаты.

Пракурор, пачуўшы гэта, прапанаваў адправіць справу на новае расследаванне. Такім чынам, у перспектыве справа магла быць закрытай па фармальных абставінах. Але суд прыняў бок Валерыя Шчукіна і прызнаў, што ў ягоных учынках адсутнічае і падзея, і склад правапарушэння. Віншуем, Валерый Аляксеевіч!

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

СКАНДАЛ

## *Белорусам грозит недетский срок*

Наша газета уже сообщала, что Федеральным судом штата Нью-Джерси США предъявлены обвинения двум предпринимателям из Беларуси, обвиненным в отмывании денег и распространении детской порнографии в Интернете.

И вот теперь началось слушание дела в суде Лос-Анджелеса, на котором оба белоруса признались в получении нескольких миллионов долларов в качестве оплаты за доступ к интернет-сайтам с детской порнографией.

По сообщению "Ассошиэйтед Пресс", на счет базировавшейся в Минске интернет-компании "Регпей" были перечислены из ряда стран от 2,5 до 7 миллионов долларов. Обвиняемые — руководитель и технический директор этой самой интернет-компании.

В ходе судебного разбирательства белорусы признали себя виновными в предумышленном отмывании денег, что карается 20 годами тюрьмы и штрафом в эквиваленте двойной суммы указанных денег.

Один из них также признал свою вину в передаче через Интернет информации, содержащей детскую порнографию, а второй — в ее рекламе.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

КРОПКІ НАД «і»

# Больш не трэба

*Урад паклапаціўся аб абмежаванні нашай заработнай платы*

1 сакавіка ўступіла ў сілу пастанова ўрада № 1651 "Аб некаторых пытаннях урэгулявання аплаты працы работнікаў камерцыйных арганізацый".

Дакументам зацверджаны "базавы межавы нарматыў тарыфнай стаўкі першага разраду для камерцыйных арганізацый дзяржаўнай формы ўласнасці і з доляй уласнасці дзяржавы ў іх маёмасці ў памеры бюджэту пражытачнага мінімуму для працаздольнага насельніцтва, што зацвярджаецца ў вызначаным парадку". У ім таксама вызначаны дыферэнцыраваныя галіновыя каэфіцыенты да базавага межавага нарматыву тарыфнай стаўкі першага разраду. Пастановай прадугледжана, што "для камерцыйных арганізацый дзяржаўнай формы ўласнасці і з доляй уласнасці дзяржавы ў іх маёмасці, што маюць высокую эфектыўнасць і прыярытэтнае значэнне ў развіцці галіны, базавы межавы нарматыў тарыфнай стаўкі першага разраду можа павышацца па рашэнні Савета міністраў Рэспублікі Беларусь".

Каментуючы па просьбе БелаПАН згаданы дакумент, вядомы грамадскі дзеяч, юрыст, эканаміст Сяргей Балыкін найперш падкрэсліў, што "вызначаецца максімальны памер стаўкі першага разраду, што роўны бюджэту пражытачнага мінімуму, які цяпер складае 135.150 рублёў". Ён нагадаў, што ў Беларусі аплата працы па ўсіх арганізацыях, за выключэннем камерцыйных арганізацый з замежнымі інвестыцыямі, праводзіцца з прымяненнем адзінай тарыфнай сеткі. Прычым няважна, прыватная гэта арганізацыя ці дзяржаўная. Аклад работніка вызначаецца наступным чынам: бярэцца стаўка першага разраду і памнажаецца на каэфіцыент, вызначаны гэтай тарыфнай сеткай. Пры гэтым адзінай магчымасцю павысіць зарплату на прадпрыемствах любой формы ўласнасці з'яўлялася павелічэнне памеру стаўкі першага разраду ў параўнанні з дзейнай у краіне непасрэдна на канкрэтным прадпрыемстве. Зараз урад вызначыў максімальна магчымы памер стаўкі першага разраду, які роўны бюджэту пражытачнага мінімуму, сказаў эксперт. Тэарэтычна, паводле яго слоў, прадпрыемства можа падняць стаўку першага разраду і вышэй за вызначаны максімум, але ў гэтым выпадку яно не зможа ўключыць згаданыя выплаты ў расходы для мэтаў падаткаабкладання і будзе вымушана павышаць зарплату за кошт чыстага прыбытку.

На думку С.Балыкіна, "згаданае абмежаванне прывядзе толькі да таго, што прадпрыемствы альбо не будуць павышаць зарплату сваім работнікам, альбо, што найбольш верагодна на прыватных прадпрыемствах, будуць выплачваць яе "ў канвертах" і без ведамасці, што напрамую вядзе да павелічэння долі "шэрай" эканомікі".

Наогул незалежны эксперт лічыць, што пастанова ўрада супярэчыць Канстытуцыі і Працоўнаму кодэксу. "У Канстытуцыі гаворка ідзе аб праве работнікаў атрымліваць справядлівую долю ўзнагароджання па выніках сваёй працы, а Працоўны кодэкс прама забараняе абмяжоўваць максімальны памер заработнай платы, — сказаў С.Балыкін. — Вядома, згаданая пастанова абмяжоўвае памер зарплаты толькі ўскосна, але ў адпаведнасці з Канстытуцыяй чалавек з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай нашай дзяржавы, таму нават ускоснае абмежаванне правоў грамадзян недапушчальнае".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ВЯЗНІ

# Месца прапіскі змянілася

Адзін з лідэраў прадпрымальніцкага руху Беларусі Валерый Леванеўскі пераведзены з Магілёўскай калоніі № 19 у калонію № 22 у пасёлку Даманава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці, дзе ён утрымліваўся раней.

Як расказаў БелаПАН сын зняволенага Уладзімір Леванеўскі, аб пераводзе бацькі родныя даведаліся выпадкова, калі патэлефанавалі ў Магілёўскую калонію, дзе ім і паведамілі аб гэтым. У калоніі № 22 пацвердзілі, што В.Леванеўскі ўжо прыбыў туды і зараз знаходзіцца на планавым двухтыднёвым каранціне, пасля чаго будзе накіраваны ў атрад. "Ні ў Магілёўскай, ні ў Івацэвіцкай калоніі нам нічога не паведамілі аб прычынах пераводу бацькі з адной калоніі ў другую. Дарэчы, аб прычынах гэтага нічога не сказалі і яму самому", — расказаў БелаПАН Уладзімір Леванеўскі.

Лідэры прадпрымальніцкага руху Валерый Леванеўскі і Аляксандр Васільеў былі абвінавачаны судом у знявазе прэзідэнта. А.Васільеў быў абвінавачаны таксама ў арганізацыі і актыўным удзеле ў несанкцыянаваным мітынгу 1 мая 2004 года ў Гродне.

7 верасня суд Ленінскага раёна Гродна прыгаварыў В.Леванеўскага і А.Васільева да двух гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі агульнага рэжыму. Суд таксама пастанавіў канфіскаваць на карысць дзяржавы ўсю тэхніку, якая была забрана раней у падсудных.

У верасні 2004 года праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" асудзіла прыгавор, вынесены В.Леванеўскаму і А.Васільеву, і прызнала іх вязнямі сумлення.

**Сяргей ПУЛЬША.**

